БРАСЛАЎШЧЫНА, ГЛЫБОЧЧЫНА, МЁРШЧЫНА, ПАСТАЎШЧЫНА, ШАРКОЎШЧЫНА

KRESY EUROPY

# КРЭСЫ

– Не плач! Мы вернемся вясной
І ў полі выйдзем грамадой.
Сустрэнем новы ўсход зары...
Максім Танк

Газета NGO's Заходняй Віцебшчыны № 11 (42), ліпень 2004 год.

# Мая пілігрымка ў Будслаў

*З. Лупач*

У канцы чэрвеня пілігрымы з усіх куткоў Беларусі ідуць у Будслаў, каб пакланіцца Маці Божай у цудадзейным абразе. У гэтым годзе прайсці з пілігрымамі вырашыў і я з сябрамі. Выйсці з Глыбокага 30 чэрвеня ў нас не атрымалася, мы выйшлі ў дарогу ранкам 1 ліпеня і да дзесяці гадзін змаглі дагнаць глыбоцкую пілігрымку ў вёсцы Параф'янава Докшыцкага раёна. З сабою мы ўзялі бел-чырвона-белы сцяг, лічачы, што ён сімвалізуе кроў Хрыста на плашчаніцы.



Каля касцёла ў Параф'янаве адпачывалі некалькі пілігрымак: з Глыбокага, Полацка, Шаркоўшчыны. Моладзь радасна вітала нас са сцягам, шмат хто прасіў у нас яго, каб сфатаграфавацца. З Параф'янава мы пайшлі разам з Глыбоцкай пілігрымкай. Але прайсці з ёй нам выпала толькі два кілямэтры. Адной пэнсіянерцы, якая ішла ў пілігрымцы, не спадабаўся наш сцяг і яна патрабавала ад ксяндза, перашкаджаючы таму маліцца, каб той прагнаў нас з калоны. Нас папрасілі згарнуць сцяг, на што мы не пагадзіліся. Мы засталіся чакаць пілігрымку з Полацка. З ёй мы прайшлі яшчэ пяць кілямэтраў. У Полацкай пілігрымцы знайшліся якіясь маладзёны, якім таксама не спадабалася тое, што мы ідзём са сцягам. Таму нейкіх пяць кілямэтраў, што заставаліся да Ілава, мы прайшлі самі ўтраіх. Варта адзначыць, што людзі ў вёсках нас сустракалі вельмі ветліва. Прыйшоўшы ў Ілава, мы сталі чакаць астатніх пілігрымаў, бо ў Ілаўскім парку збіраліся ўсе пілігрымы з Віцебскай дыяцэзіі. Да Будслава заставалася адсюль сем кілямэтраў, ісці туды на гэты раз мы вырашылі з Мёрскай пілігрымкай. Яна ішла астатняй. Усю калону здымала БТ. Перад намі аператар БТ апусціў камэру. Хутчэй за ўсё, што нехта з БТ і падказаў міліцыянтам, што ў калоне ёсць



чалавек з нацыянальным сцягам.

Да Будслава заставалася кілямэтра паўтара, у нас ужо быў прыўзняты святочны настрой, але яго сапсавалі міліцыянты. Нас сустрэлі аж дзве міліцэйскія машыны. З першай з іх, нумар 10-01 МО, выскачылі маёр і капітан, і, не прадставіўшыся, з грубай лаянкай, выцягнулі майго сябра з калоны. Сцяг адразу быў парваны. Потым схапілі і мяне, у мяне на шыі была белая касынка з чырвонай паласой. Яна таксама была парвана. З нас пазрывалі бел-чырвона-белыя значкі, прычым у сябра яго вырвалі з кашулі "з мясам". Калі б на нас была яшчэ адзенне ў нацыянальных колерах, яго б таксама напэўна парвалі. Усё гэта суправаджалася страшэнным расейскім матам. Міліцыянты не пасаромеліся нават святара, які ішоў побач з намі. Прашманаўшы нашы сумкі, нас адпусцілі. Прычым, вялі сябе міліцыянты як самыя звычайныя бандыты. Міліцыя – гэта адзін з сімвалаў улады, яе твар. І калі ў нас такая міліцыя, то, выходзіць, такая і ўлада.

У мінулыя гады ніхто з міліцыі немеў ніякіх прэтэнзій да сімволікі. Відаць, нехта, можна здагадацца, хто, пабачыў кадры з Будслава па тэлевізіі, таму і было загадана ў гэтым годзе навесці "парадак" з сімволікай. Так міліцыянты сапсавалі нам святочны настрой, хаця само свята было вельмі цудоўным.

*Зміцер Лупач*

# Мястэчка ў акружэнні азёр

**У выключна маляўнічай мясцовасці знаходзіцца самае буйное сяло Пастаўшчыны - Дунілавічы, якое адносіцца да аднаго з найбольш старажытных мястэчкаў тагачаснага Вялікага княства Літоўскага. Упершыню пра пасяленне сярод узвышшаў, лясоў, якое ляжыць каля падножжа адразу двух азёр у гістарычным архіве валодання князёў Гальшанскіх успамінаецца ў 1473 годзе. Яшчэ перад вайной, ў 1940 годзе набылі Дунілавічы статус пасёлка гарадскога тыпу і сталі цэнтрам аднайменнага раёна, але цяпер тут толькі вялікая вёска і цэнтр сельсавета.**

Такой багатай пяцісотгадовай гісторыяй можа пахваліцца далёка не кожны горад, але і да гэтай пары па колькасці насельніцтва мястэчка ўступае толькі райцэнтру і гарпасёлкам Варапаева, Лынтупы. Але многае з бліскучага мінулага беспаваротна страчана і захоўваецца толькі ў памяці нямногіх краязнаўцаў і старажылаў. Да таго ж гэта мясцовасць першапачаткова называлася Данілавічы і сучасную назву набыла ў 1897 годзе, калі ў царскай Расіі праводзіўся перапіс насельніцтва. На той момант у цэнтры воласці пражывала 1484 жыхара, а ў часы перадваеннай Польшчы іх стала яшчэ больш і тады па сцвярджэнню маёй маці, якая нарадзілася ў гэтых мясцінах, у Дунілавічах працавала больш 40 магазінаў і карчма з рэстаранам.

Загублены патэнцыял

Зараз на тэрыторыі мясцовага сельсавета 21 населены пункт і, як расказваў старшыня сельскага выканкама Валянцін Пашкевіч, калісьці шумныя сёлы імкліва старэюць. Трэцяя частка насельніцтва – пенсіянеры, ёсць вёскі, дзе няма ніводнага працаздольнага, а ўсяго на падведамаснай тэрыторыі пражывае нямногім больш 1600 чалавек, палова з якіх у цэнтры сельсавета. Перад Другой міравой вайной у мястэчцы працавалі цагляны і лесапільны заводы, лесаэксплуатацыя, млын, кавальня, а таксама была наладжана вытворчасць дываноў, скураных вырабаў, пераплёт кніг і многае іншае. Тут нават было некалькі банкаў, 3 сінагогі, ламбард, гатэль, а ў 1934 годзе прайшла сельскагаспадарчая выстава, аб якой расказвалі спецыялізаваныя польскія часопісы таго часу.

Як высветліў гісторык і краязнаўца Іосіф Зямчонак, многія знатныя роды ў мінулым валодалі тутэйшым маёнткам, уключаючы прадстаўнікоў дынастыі Радзівілаў, Далмат-Ісайкоўскіх, Белазораў, а перад прыходам бальшавікоў апошнім уладальнікам з'яўляўся граф Юзэф Тышкевіч, які меў 1064 гектара зямлі, зрэшты, ў многіх заможных сялян надзелы зямлі складалі ад 55 да 823 гектараў, як у Паула Карэцкага. Хто з іх не паспеў збегчы, зразумела, падвяргаўся сталінскім рэпрэсіям. Пакуль у Дунілавічах няма мемарыяльнай дошкі, але вядома, што вясной 1916 года імператар Мікалай II праводзіў тут агляд сваіх войскаў, а лінія фронту праходзіла ў 25 км ад Дунілавічаў. Пасля рэвалюцыі да восені 1920 года ўлады мяняліся 5 разоў: немцаў па два разы

змянялі саветы, а затым палякі, якія аселі надоўга.

У час Вялікай Айчыннай вайны тагачасны гарадскі пасёлак быў знішчаны амаль дашчэнту. За перыяд акупацыі гітлераўцамі было забіта і закатавана 992 жыхары, а найбольш пацярпела яўрэйскае насельніцтва. У 1942 годзе тут фашысты таксама стварылі гета, якое ліквідавалі 21 лістапада. Мястэчка возера Бледнае стала чырвоным ад чалавечай крыві, таму што тут было знішчана 828 яўрэяў, з якіх трыста дзяцей. Пашанцавала выжыць толькі адзінкам, а астатнія прынялі пакутніцкую смерць. Аб гэтым страшным зладзействе на ўездзе ў сяло напамінае брацкая магіла з помнікам на месцы, куды вывозілі трупы ў загадзя падрыхтаваны вялікі роў. У час каральнай экспедыцыі разам з 72 жыхарамі дашчэнту згарэла блізляжачая вёска Альцы і ад панесеных вайной ран Дунілавічы так і не аправіліся поўнасцю да гэтай пары, і ў выніку ў многім спынілі сваё развіццё.

## Таямніцы старажытнага парку

На ўскрайку сяла на сямі высокіх пагорках яшчэ напрыканцы XYIII стагоддзя ў вузкай даліне працякаючай тут ракі Зарэжанка пачаў фарміравацца вядомы пейзажны парк Крыкалы. Адсюль з розных відаў кропак – гаворыць добраахвотны экскурсавод Франц Хоміч, настаўнік мясцовай сярэдняй школы, - адчыняюцца цудоўныя пейзажы, а самі Дунілавічы бачны як на далоні. Месца сапраўды ўражваючае і таямніча-рамантычнае, быццам акунаешся ў раман У. Караткевіча "Чорны замак Альшанскі". Нават па прашэсці амаль сотні год бачна, як бурліла тут жыццё ў мінулым, хаця пасля таго як спалілі палац-сядзібу пасля 1915 года ён не аднаўляўся, а захаваліся толькі фрагменты былой велічы і прыгажосці.

Уязная кляновая алея раней заўсёды пасыпалася свежым пяском, тут жа месціліся два штучных вадаёма і старыя прагулачныя маршруты. Да гэтай пары сярод насельніцтва захаваліся легенды, што на Лысай гары танцуюць чэрці і ўсялякая нечысць. Крыху халадзее душа, калі падыходзіш да вялікага, ў рост чалавека чортава каменя ў форме сэрца, дзе на вяршыні ўзвышанасці не расце чамусьці ні трава, ні іншыя расліны. Можна палюбавацца і астаткамі падвяснога моста, дзе катаўся ў карэце граф Тышкевіч, які быў, як сцвярджаюць, чарнакніжнікам.

Зрэшты, папулярнасць парка такая, што сюды паглядзець на натуральныя ландшафты прыязджаюць са сталіцы. Сам жа закінуты парк плошчай 15 гектараў цікавы яшчэ і тым, што не меў агароджы і фактычна – мяжы. Вось толькі непрыемнае адчуванне застаецца пасля знаёмства з фамільнай усыпальніцай гаспадароў сядзібы і паваленымі надмагільнымі помнікамі. У саміх Дунілавічах, дарэчы, сем могілак – старых, і тых, якія цяпер дзейнічаюць. Тыя, што ўжо не дзейнічаюць, да нядаўняй пары былі бязлітасна сапсаваны паляўнічымі за каштоўнасцямі. Але ніхто нічога не знайшоў, як і не ўдалося паймаць вандалаў на могілках. З ураджэнцаў гэтых мясцін самая вядомая саратніца Г. Пляханава, член ЦК партыі меншавікоў, філосаф і літаратуразнаўца Любоў Аксельрод, якая ў маладосці перапісвалася з Леніным.

## Шанец на адраджэнне

У апошнія месяцы ў Дунілавічы зачасцілі высокапастаўленыя асобы, апошнім з якіх напачатку траўня аказаўся памочнік прэзідэнта па Віцебскай вобласці Зянон Ломаць. Мэта ўсіх гэтых візітаў знаёмства з аб'ектам даўгабуда – новым будынкам школы, якую будуюць з 1998 года. У гэтым трохпавярховым памяшканні пабываў і я і пераканаўся, што новы будынак будзе лепшым у раёне. Калі сталі пагаворваць, што яе збіраецца ўрачыста адчыніць сам А. Лукашэнка, цэнтральныя вуліцы сяла пакрыліся новым асфальтам ды і паўсюль стала прыкметна чысцей і ўтульней. З другога боку Дунілавічы атрымалі шанец на свае адраджэнне, паколькі новая школа, а ў перспектыве сельская гімназія стане гарантыяй, што сяло не будзе ў заняпадзе, як іншыя.

*Працяг на стар. 7*

# УЛАДА СУПРАЦЬ НДА

Дзе больш сацыяльна актыўных людзей? Лічыцца, што ў сталіцы. Але статыстыка паказвае, што большасьць грамадзкіх арганізацыяў Беларусі – якраз на пэрыфэрыі, хоць разьмеркаваныя яны няроўна. Пра будні й пэрспэктывы некамэрцыйных структураў Беларусі і пойдзе размова.

Што такое 2 тысячы грамадзкіх суполак на ўсю краіну? Тых, хто займаецца праваабарончай дзейнасьцю і апякуецца "братамі нашых меншымі", клапоціцца пра старых і хворых СНІДам, аднаўляе імёны воінаў Вялікай Айчыннай і наладжвае сьвяты для кінутых дзяцей... Для параўнаньня: у адной Львоўскай вобласьці такіх суполак удвая больш, чым у шасьці беларускіх, у адным толькі Стакгольме — удзесяцёра больш, а ў Нямеччыне — у 125 разоў... Выходзіць, беларускі трэці сэктар — нешта малазначнае, шэрае? Ягоныя дасьледнікі так ня лічаць:

**За апошнія тры гады дзяржава зрабіла вельмі шмат, каб аслабіць трэці сэктар**

(Мілінкевіч: ) "Наш трэці сэктар больш цікавы, чым у суседзяў. Гэта — адлюстраваньне нашай сытуацыі".

Асацыяцыя рэсурсавых цэнтраў, якой кіруе гарадзенец Аляксандар Мілінкевіч, завяршае падрыхтоўку аналітычнага агляду стану некамэрцыйных арганізацыяў краіны. Паводле дасьледаваньня, іхную спэцыфіку найперш вызначаюць надзвычай цяжкія ўмовы для ўдзелу ў сучасным бізнэсе і палітычным жыцьці. Калі ў Расеі і ва Украіне актыўныя людзі пасьля развалу СССР заняліся прадпрымальніцтвам ці будаўніцтвам партыйнага жыцьця, дык у Беларусі найбольш прывабнай паступова сталася ніша якраз апалітычнага, некамэрцыйнага трэцяга сэктару.

(Карнеенка: ) "Палітыка Лукашэнкі ніколі мне не падабалася, і ніколі я не магу яе падтрымаць. І гэтага ўжо дастаткова, каб патрапіць пад рэпрэсіі. Таму мы лічылі нямэтазгодным займацца прадпрымальніцкай дзейнасьцю, хаця напачатку ў нас была такая спроба. Памятаеце – "Гомель-РІА"? Гэта ўсё супала з пачаткам дзейнасьці прэзыдэнта Лукашэнкі. Было відавочна, чым тое скончыцца. Таму мы спынілі тую дзейнасьць і зьліквідавалі прадпрыемства "Гомель-РІА".

Аднаго зь лідэраў трэцяга сэктару Гомельшчыны Віктара Карнеенку дапаўняе Аляксандар Мілінкевіч:

(Мілінкевіч:) "Большасьць актыўных людзей, гэта натуральна, ідзе ў грамадзкія арганізацыі, якія вельмі разнастайныя, якія разьвіваюцца, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы. І таму канцэнтрацыя будучай дэмакратычнай Беларусі менавіта ў трэцім сэктары найбольшая. Асабліва гэта тычыцца невялікіх гарадкоў. Там палітычнае жыцьцё практычна не існуе. І чалавек, які хацеў бы штосьці зрабіць для сваёй краіны, апынаецца ў трэцім сэктары".

Вось такая парадаксальная лёгіка жыцьця. Дзяржава не адразу зразумела яе, таму, лічыць спадар Мілінкевіч, грамадзкія некамэрцыйныя ініцыятывы даволі дынамічна разьвіваліся ажно да 2001 году. Яго падтрымлівае і актывістка выканаўчага бюро Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Алёна Андрэева:

(Андрэева: ) "На маю думку, вельмі пасьпяховай зьяўляецца Беларуская арганізацыя працоўных жанчын: яна мае 32 рэгіянальныя прадстаўніцтвы. Пасьпяховай можна назваць "Вясну": хоць яе афіцыйна закрылі, аднак ніводная філія так і не спыніла сваёй дзейнасьці. З задавальненьнем назаву пасьпяховым і Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў..."

Што найперш прываблівае ініцыятыўных людзей з правінцыі? Тая сацыяльна-грамадзкая праблематыка, якая апынулася на пэрыфэрыі дзяржаўнай увагі, адказвае Аляксандар Мілінкевіч:

(Мілінкевіч:) "Напрыклад, веданьне праўдзівай гісторыі, тое ж самае краязнаўства ці абарона мовы".

У справе беларускай патрыётыкі гэтыя

апантаныя людзі расплюшчылі сваім землякам вочы на раней схаваную гістарычную праўду: заснавалі шэраг музэяў, выдалі дзесяткі кніг і брашураў, знайшлі сродкі на помнікі выбітным асобам Бацькаўшчыны...

Праўда, апошнім часам рабіць гэта ўсё цяжэй. Бо актыўную самастойнасьць прадстаўнікоў трэцяга сэктару вэртыкаль пачала атаясамліваць з апазыцыйнасьцю, палітычнай нелаяльнасьцю. Тыповы прыклад — дачыненьні жодзінскага гарвыканкаму зь мясцовай суполкай ТБМ. Спробу таварыства адстаяць адзіную ў 60-тысячным горадзе беларускамоўную клясу з двума вучнямі ўлада ўспрыняла як падрыўную ідэалягічную акцыю. Расказвае адзін зь лідэраў мясцовага трэцяга сэктару Аляксей Лапіцкі:

(Лапіцкі: ) "Я нядаўна быў на сэсіі гарсавету. Давялося як старшыні ТБМ задаваць пытаньні кіраўніку аддзелу адукацыі Горыду. Наконт выкананьня праграмы міністэрства адукацыі па разьвіцьці беларускай мовы ў школах. Адказ быў абсалютна нечаканы. Ён паглядзеў у вакно і спакойна зрабіў мне пагрозу фактычна пры ўсіх. Ён сказаў: вось, маўляў, у вас ёсьць там кляса, у якой два чалавекі, але па законе патрэбна тры чалавекі. Таму трэба разгледзець пытаньне пра яе мэтазгоднасьць".

Такія пагрозы небеспадстаўныя: апошнім часам у рэгіёнах шмат фактаў непрыхаванага ціску на лідэраў і актывістаў грамадзкіх арганізацыяў. Далёка ня ўсе ва ўмовах сёньняшняй кантрактнай сыстэмы на працы, іншых формаў арганізаванага, так бы мовіць, "зацугляньня", застаюцца прынцыпова вольнымі людзьмі з уласнымі ўяўленьнямі пра чалавечую і грамадзянскую годнасьць...

(Лапіцкі: ) "Калі ідзе ўціск на людзей за іхную актыўнасьць, яны робяцца пасыўнымі. Альбо зыходзяць у цень, альбо хаваюцца на пэўны пэрыяд. Іх правакуе сытуацыя на такое..."

Аляксея Лапіцкага дапаўняе Алесь Язьвінскі, кіраўнік незарэгістраванай грамадзкай арганізацыі "Брама" зь Нясьвіжу:

(Язьвінскі: ) "Людзі пачынаюць думаць, як выжыць: хто зьяжджае, хто нечым іншым пачынае займацца... Каму не ўдаецца прабіцца, кідае, махнуўшы рукой. Вось такія праблемы. Атрымліваецца, як недзе высунуўся, дык табе няма нідзе ходу".

Гэта тым больш незразумела сябрам "Брамы", што іхныя амбіцыі зусім далёкія ад палітыкі. Напрыклад, яны аказвалі дапамогу суполцы малaverages інвалідаў і дзяцей-інвалідаў. Аднак пачулі пагрозьлівае: "Стоп!" Вэртыкальнікаў больш задавальняе сытуацыя, калі практычна ўсё робіцца пад іхным пільным кантролем. А як тое немагчыма з-за арганізацыйных ці фінансавых рэсурсаў, дык хай інваліды выкарасківаюцца самі...

(Язьвінскі: ) "Я ведаю асобных людзей, якія намагаюцца нешта рабіць. У Клецкім раёне ёсьць такія. Дык вось трэба дапамагчы ім. Магчыма, аб'яднаць. Вось наконт Капыля – хацелася б папрацаваць там. Але пакуль да гэтага часу гадоў за дзесяць нам не ўдалося там знайсьці ніводнага актывіста. Капыль – гэта нейкая чорная дзірка".

Спадара Язьвінскага дапаўняе старшыня закрытага ўладамі абласнога грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" Віктар Карнеенка:

(Карнеенка:) "Супраць трэцяга сэктару вядзецца сыстэмная барацьба сёньняшняй улады. Дзяржава не зацікаўлена ў разьвіцьці грамадзкіх аб'яднаньняў..."

Пра тое, чаму так адбываецца, гаворыць старшыня гомельскага абласнога жаночага аб'яднаньня "Ініцыятыва" Галіна Скараход:

(Скараход:) "Практыка, якая існуе ва ўсім сьвеце, практыка сацыяльнага партнэрства паміж грамадзкімі арганізацыямі, дзяржаваю і прыватным бізнэсам, у нас не працуе. Яна і ня можа працаваць, таму што, па-першае, у нас няма ўмоваў для прыватнага бізнэсу. Па-другое, у нас не распрацаваны мэханізм падтрымкі гэтых арганізацыяў бізнэсам. Я дакладна ведаю, што ўсяго 0,01 доля адсотка зь бюджэту была адпушчана на падтрымку грамадзкіх арганізацыяў".

Дарэчы, атрымалі тую дапамогу толькі піянэры, БРСМ і саветы вэтэранаў — арганізацыі, якія выконваюць выключна дзяржаўную палітычную замову. А тыя, хто занятыя сацыяльнымі праграмамі, мусяць самі клапаціцца пра неабходныя сродкі.

Да таго ж, вэртыкальнікі пастаянна ствараюць усё новыя штучныя перашкоды для іхнай дзейнасьці. Так, абласны суд атрымаў пазоў управы юстыцыі на зьліквідаваньне жаночай арганізацыі спадарыні Скараход: ейны юрыдычны адрас знаходзіцца ў кватэры жылога дому...

Дарэчы, у апошні дзень сваёй працы Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытаньні новы Закон аб грамадзкіх арганізацыях, які, паводле меркаваньня дэпутатаў Івана Пашкевіча, Вольгі Абрамавай ды іншых увогуле



ёсьць замаскаванай спробай загнаць трэці сэктар у кут... Разважае гарадзенец Аляксандар Мілінкевіч:

(Мілінкевіч:) "Сёньня адбываецца працэс дэлегалізацыі трэцяга сэктару. Тое, што закрывалі арганізацыі – гэта не працэс ліквідацыі, а пераход іх у іншае становішча. Сёньня зарэгістраваных арганізацыяў ужо ня тры тысячы, як было два гады таму, а дзьве тысячы дзьвесьце. А незарэгістраваных, па нашых ацэнках, больш за тры тысячы грамадзкіх ініцыятываў па ўсёй краіне".

Падчас дэбатаў вакол новага закону пра трэці сэктар Вольга Абрамава заўважыла, што ва ўсім цывілізаваным сьвеце для рэгістрацыі яго суполак прыняты элемэнтарны мэтад заяўкі, а не абстаўленая ўсемагчымымі абмежаваньнямі і ўскладненьнямі працэдура дазволу, як у беларускай дзяржаве...

(Мілінкевіч:) "Дзяржава выдатна разумее, што ёй актыўнасьць грамадзкая не патрэбна. Людзі сацыяльна актыўныя — гэта шкодныя людзі. Патрэбна грамадзтва, якое цалкам падпарадкоўваецца выканаўчай уладзе. Таму не выпадковы гэты працэс велізарнага ціску на грамадзкі сэктар, які паказаў, што ён зьяўляецца ня толькі грамадзкай, але і палітычнай сілай, што натуральна ў гэтых умовах".

Але ў своеасаблівай грамадзянскай пустэльні вэртыкалі чуецца нейк няўтульна: на двары ўсё ж новы час, 21 стагодзьдзе. Тым больш што ў пэўны пэрыяд трэці сэктар амаль цалкам пераняў ініцыятыву ў стварэньні разнастайных суполак.

(Мілінкевіч:) "Дзяржава, безумоўна, разумее, што каб рабіць выгляд дэмакратычнасьці, трэба, каб грамадзкі сэктар усё ж быў. Яна ідзе па шляху стварэньня псэўдаграмадзкіх арганізацыяў, якія стварае сама. У нашых умовах гэта натуральны працэс — разьбіць на сваіх і чужых. Адных трэба зьнішчаць, сваіх — падтрымліваць".

З Аляксандрам Мілінкевічам згаджаецца Алёна Андрэева з Асамблеі няўрадавых арганізацыяў:

(Андрэева: ) "Варта адзначыць, што дзяржава спрабуе нібыта імітаваць дзейнасьць у той сфэры, дзе яна не працуе. Спрабуе забіць тое поле, дзе маглі б працаваць НДА. Такая атрымліваецца адгаворка: у нас ёсьць НДА, якая гэта робіць. Таму мы не будзем вас рэгістраваць, таму не акажам ніякай падтрымкі. Вы нам не патрэбны. У нас тут ёсьць нехта, і ён гэта будзе рабіць. Нягледзячы на тое, што гэтай працы сапраўды ня будзе зроблена..."

На думку Аляксея Лапіцкага з Жодзіна, гарвыканкам мэтанакіравана стварае сёньня штучныя — "умоўна недзяржаўныя" структуры, якія нібыта ёсьць вынікам грамадзянскай самадзейнасьці. А насамрэч?

(Лапіцкі: ) "Фізычныя асобы ўтвараюць няўрадавую арганізацыю разам з супрацоўнікамі выканкамаў. І прэзэнтуюцца на грамадзкім, працуюць з грантадаўцамі. Яны прафэсійна, узгоднена, скаардынавана працуюць з уладаю па ўзьдзеяньні на актыўных людзей, у тым ліку на моладзь. І такім чынам іхная функцыя на полі няўрадавых арганізацыяў дваістая. Гэта біпалярныя структуры, якія маюць двайное фінансаваньне, двайное прызначэньне. Гэты фэномэн існуе, і яго трэба дасьледаваць".

Такім чынам, дзяржава спрабуе аслабіць трэці сэктар Беларусі ня толькі шляхам стварэньня зьнешніх перашкодаў, але й знутры. Аднак у кожнага мэдаля два бакі. Нават "біпалярныя", так бы мовіць, суполкі насуперак задумцы "бацькоў-стваральнікаў" парадаксальным чынам спрыяюць разьвіццю неабыякавасьці, самастойнасьці ў сваіх шараговых сяброў, калі тыя працуюць над сацыяльнымі праграмамі... А выхаваньне тых, хто не баіцца "высоўвацца", і ёсьць сутнасьцю намаганьняў трэцяга сэктару, які спакваля рыхтуе аснову разьвіцця новай, грамадзянскай супольнасьці ў краіне.

# Мястэчка ў акружэнні азёр

*Працяг са стар. 2*

Збіраюцца, магчыма, тут пабудаваць інтэрнат, а на першых парах у прыгажуню школу на 265 месцаў дзяцей будуць вазіць на двух школьных аўтобусах з навакольных вёсак. Зрэшты, і да гэтай пары Дунілавіцкая СШ з'яўляецца адной з лепшых у краі. У ёй вучыцца амаль дзвесце дзяцей, але ў старым будынку цесна, і заняткі вяліся ў дзве змены. Дырэктар, заслужаны настаўнік Беларусі Васіль Бульбенаў змог на сучасным ўзроўні паставіць навучальны працэс і выхаваўчую працу. У свой час гэта школа экспаніравалася на ВДНГ СССР, як узорная па арганізацыі турысцка-краяведчай працы. Дзеці, разам з дырэктарам дабіраліся да Курыльскіх астравоў, Камчаткі, Крыма, Каўказа, ды і мінулым летам здзейснілі чарговы веласіпедны паход па краіне, праехаўшы за 5 дзён больш за 400 км. Вялікая заслуга Бульбенава, што ён змог дастукацца да высокіх кабінетаў, каб нарэшце даўгабуд завяршыўся.

## Адроджаны з руінаў

З якога боку не пад'язджай да Дунілавічаў, здалёк бачны прыгожы белы дамініканскі касцёл, які пачалі тут узводзіць у 1623 годзе. Праз сто з лішкам год касцёл апрануўся ў камень, але пасля вайны амаль сорак год прастаяў зачыненым і разграбленым. Святыню аддадзілі да жыцця толькі ў жніўні 1989 года, калі прайшло першае набажэнства сярод руін у будынку без даху. Аднаўленчыя працы ў храме правялі за тры гады і ў Троіцкім касцёле зноў гучыць чароўны звон і песні аргана. Сёння храм – галоўная славутасць Дунілавічаў, дзе вакол яго сцен за два апошніх гады цэнтральная плошча з помнікам паўшым на вайне землякам пераўтварылася да непазнавальнасці і глядзіцца вельмі прыгожа.

Начале з былым настаяцелям касцёла ксяндза Яна, беларуса па нацыянальнасці, была пачата праца па уладкаванню тутэйшых могілак на яўрэйскі манер. Ужо многае ўдалося зрабіць, навесці на могілках парадак, паставіць прыгожыя агароджы, а вось стары клуб, зрублены з другога драўлянага касцёла, па іроніі лёсу пастаўлены насупраць зняважанай святыні, ужо разабралі і тут мяркуецца адчыніць міні-рынак. Вялікая заслуга старшыні сельсавета, што ён змог пабудаваць у пасёлку новы сельскі дом культуры з бібліятэкай, куды не сорамна запрасіць і сталічных артыстаў.

Зараз турбуе мясцовых жыхароў, што ўжо два гады, як раённае спажывецкае таварыства не пачынае рамонт ў зачыненым магазіне прадтавараў, а затым зачыніла і гаспадарчы магазін. Усе гандлёвыя кропкі сабраны ў адным універмагу і людзей такое суседства не задавальняе. Магчыма, калі сюды прыедзе прэзідэнт, сітуацыю хутка выправяць. Пакуль жа ў мястэчку ёсць яшчэ магазін нарыхтоўчай канторы і адзін прыватны, папулярны ў насельніцтва. Цалкам жыхарам Дунілавічаў грэх скардзіцца на ўмовы быту: з аб'ектаў сацкультбыту тут працуе яшчэ і ўчастковая бальніца, амбулаторыя, аптэка, аддзяленне сувязі і збербанка. Вось-вось у сяле пачне дзейнічаць мабільная сувязь, таму што побач, непадалёк ад трасы Полацк-Вільнюс, працуе рэтранслятар з вышкай 5 метраў, якую і будаваць не трэба, а толькі ўсталяваць адпаведнае абсталяванне. Дзесяткі новых працоўных месцаў прадставіла мясцовым юнакам прыватнае прадпрыемства "Заазерскае", па выпуску мясапрадуктаў, якія здаўна ўмелі вырабляць ў гэтым прыгажэйшым краі.

*Уладзімір Шык*

# *Выстава кветак*

2 ліпеня ў Музеі традыцыйнай культуры адбылася традыцыйная выстава кветак і кветкавых кампазіцый. На гэты раз выстава мела назву "Купальскі вянок" і да таго ж была прымеркавана да 60-гадовага юбілею вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У межах выставы адбыўся конкурс па некалькіх намінацыях: кампазіцыя з кветак, лепшы кветнік горада, пляценне купальскага вянка.

Парадавала актыўнасць гараджан, хаця выбар кветак у гэтым годзе аказаўся больш сціплым з прычыны халоднай вясны і пачатку лета. Кампетэнтнае журы абрала лепшыя працы.

# «Квітней Глыбоччына 2004»

У нядзелю, 4 ліпеня, Глыбокае адзначыла 60-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 590-годдзе горада. Улады раёна зрабілі прыемны сюрпрыз для глыбачан і гасцей горада, запрасіўшы ў Глыбокае Дзяржаўны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Імя Фінберга шырока вядомае, таму на канцэрт, які праходзіў з 8 да 10 гадзін вечара, сабралася шмат людзей. Было відаць, што выступленне людзям спадабалася.

З гэтай нагоды мне хацелася б адзначыць адну акалічнасць. На свята незалежнасці краіны дзяржаўны аркестр за ўсё сваё выступленне выканаў толькі дзве (!) беларускія песні. Гэта не дзіўна, бо большую частку сваёй канцэртнай дзейнасці гэты калектыў праводзіць у Расіі. Але ж гэта галоўны музычны калектыў краіны, такія калектывы, на маю думку, патрэбны ў сваёй краіне. Але, відаць, музыканты, як і іншыя беларусы, мусяць ездзіць у Маскву, каб зарабіць грошы на жыццё.

*Зміцер Лупач*

# Што будзе адбывацца падчас акцыі 21 ліпеня?

21 ліпеня ў Менску павінна адбыцца грамадзянская акцыя з нагоды 10-гадзьдзя кіраваньня Беларусьсю Аляксандрам Лукашэнкам. Арганізатарамі гэтай сустрэчы з выбарнамі сталі дэпутаты групы "Рэспубліка", а таксама шэраг вядомых у Беларусі людзей. 17 ліпеня адбылося пасяджаньне аргкамітэту акцыі. Наш карэспандэнт пацікавіўся у арганізатараў як ідзе падрыхтоўка да гэтага мерапрыемства, а таксама ці возьмуць у ім удзел палітычныя партыі.

Арганізатары акцыі дэпутаты Ўладзімер Парфяновіч, Сяргей Скрабец, Валеры Фралоў, а таксама Ірына Красоўская, Уладзімер Колас і Мікіта Сасім днямі атрымалі дазвол на правядзеньне сустрэчы з выбарцамі. Але шэсьце дазволенае ня з плошчы Якуба Коласа, як прасілі арганізатары, а з вуліцы Карастаянавай да плошчы Бангалор. Я задаў пытаньне генэралу Фралову, што ў гэтай сытуацыі будуць рабіць арганізатары? Вось што ён адказаў:

(Фралоў: ) "Галоўнае пытаньне, калі мы разглядалі гэтую акцыю пасьля сустрэчы ў Мінгарвыканкаме, у нас было – забясьпечыць добры парадак, каб уся акцыя прайшла ў тым фармаце, як нам дазволіла ўлада. Нейкая частка людзей, мне здаецца, прыйдзе на Якуба Коласа, і гэта будзе самы такі напружаны момант, каб мы ў добрым супрацоўніцтве з уладамі і зь міліцыянтамі арганізавалі праходжаньне тых людзей, якія ня ведаюць, што такое Кульман, ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Бангалор".

Калега генэрала Фралова Ўладзімер Парфяновіч спадзяецца, што ва ўладаў хопіць розуму й вытрымкі каб не ўжываць супраць удзельнікаў акцыі сілу:

(Парфяновіч: ) "Людзі прыйдуць туды, куды ім падкажа сэрца. Асноўныя мерапрыемствы будуць на плошчы Бангалор. Мы дабіліся гэтага дазволу і мяркуем, што ніхто з нашых грамадзян не патрапіць ні пад якія дубцы, і што ва ўлады хопіць сумленьня, каб гэтага не зрабіць".

Дэпутат Сяргей Скрабец распавёў аб праграме мерапрыемстваў на плошчы Бангалор:

(Скрабец: ) "Мы плянуем на Бангалоры мітынг і канцэрт. У канцэрце далі згоду ўдзельнічаць гурты "Крыві", "Нэйрадзюбель", "Палац" і "НРМ". Жанчынам будуць даваць кветкі, дзецям – марозіва, балёнікі будзем надзьмуваць..."

*Альгерд Невяроўскі, "Свабода"*

KRESY EUROPY
КРЭСЫ
Газета NGO$_s$ Заходняй Віцебшчыны

Заснавальнікі: Міхал Гіль і Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны
Рэдактар Міхал Гіль
Тэл.факс.:2 17 84; E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Меркаванні рэдакцыі і аўтара могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Наклад 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі

Аддрукавана на абсталяванні нашых сяброў